ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ
ЖНІВЕНЬ 2013
ВЫДАЕЦЦА З 1997 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ВЗГЛЯД

# Две картины реальности в белорусской социологии

Сергей НИКОЛЮК



**В декабре 2012 года прогнозы государственных чиновников на будущий год были более чем оптимистическими […]. Неадекватность этих оценок на тот момент была понятна любому белорусскому обывателю, чей уровень экономических знаний ограничивался чтением газет и посещением новостных сайтов.**

С одной, однако, оговоркой: негосударственных газет и негосударственных новостных сайтов.
Это значит, что в расколотом беларусском обществе давно сформировалось два представления об экономических, социальных и политических процессах и, соответственно, две истины о них.
И, что интересно, в случае с экономикой эти различные истины формируются с опорой на одну и ту же (официальную) статистическую базу!

**Современный вариант «лукавого раба»**

[…] Социологи школы Левады для характеристики советского человека часто используют библейское понятие «лукавый раб». Согласно Льву Гудкову, «типу массового человека, который сформировался в поздних советских условиях, ближе всего подходит формула “лукавый раб”. Все помыслы которого направлены на то, чтобы выжить в любых ситуациях, в том числе и таких, где от него ничего не зависит. Степень изобретательности и психологической гибкости, как и затрата сил и других ресурсов, может быть при этом очень высокой. Но подобная активность до сих пор никогда не направлялась на то, чтобы изменить сами определения ситуации, институциональные рамки жизни».
Для выживания в условиях «развитого социализма» требовалось овладеть искусством двоемыслия. И с раннего детства параллельно с освоением родного языка будущий гражданин нерушимого союза свободных республик нарабатывал практические навыки думать одно, говорить другое, а делать третье. Без массового двоемыслия Советский Союз не протянул бы 73 года, т.к. именно оно блокировало появление мальчиков, способных воскликнуть: «А король-то голый!» – без чего было невозможным перерастание атомизированного (кухонного) недовольства в публичный протест. В 1985 году, после падения цены на нефть в 6,2 раза, роль мальчика был вынужден взять на себя генеральный секретарь ЦК КПСС, что привело к повторению сценария 1917 года, когда, по выражению Василия Розанова, «Россия слиняла в три дня».

**В ожидании окончания сезона отпусков**

На чем был основан оптимизм главы правительства и его министра в декабре 2012 года? На специфическом знании экономической реальности или на специфическом лукавстве, способствующем выживанию «в любых ситуациях»? Как тут не вспомнить высказывание экономиста эпохи сталинских пятилеток Станислава Струмилина: «Лучше стоять за высокие темпы (экономического роста), чем сидеть за низкие». Но каким бы ни был ответ на вопрос, нам от этого не легче. Один рукотворный кризис в 2011 году мы уже пережили и, судя по официальной статистике, уверенно движемся навстречу новым.

Беларусская стабильность «нулевых» обеспечивалась за счет устойчивого потока российских дотаций, позволявшего ежегодно наращивать доходы населения. Внутренних же источников роста доходов отечественная модель – созданная «своим умом» вопреки, как отметил в 2002 году глава нашего государства, советам «"докторов" из Международного валютного фонда, прописывающих лекарства, которые опаснее самой болезни», – не предусматривает.
В отличие от классических традиционных обществ, не нуждающихся в притоке дополнительных ресурсов для поддержания стабильности, современное беларуское общество напоминает велосипедиста, вынужденного постоянно крутить педали для поддержания равновесия.
Но это в первом приближении. В реальности же общество распадается на «меньшинство», способное крутить педали самостоятельно, и «большинство», желающее, чтобы педали за него крутило государство. «Меньшинство» сегодня активно пакует чемоданы.

>>> 2

1 <<< **Две картины реальности в белорусской социологии**

Эту активность фиксирует независимые социологи. В апреле 2013 года 26% респондентов ответили утвердительно на вопрос «В настоящее время работает ли кто-либо из членов Вашей семьи за границей?» (НИСЭПИ). Рекомендую обратить внимание и на официальную статистику. Уже шесть месяцев подряд в стране снижается потребление спиртных напитков (-6,7% за январь-июнь, и это при двузначном росте доходов!).
Что фиксируют государственные социологи, чьи исследования оплачивают беларусские налогоплательщики, мне не известно. Моя попытка проштудировать сайт Института социологии Национальной академии наук закончилась плачевно […].

**Суверен без права на получение информации**

Кто только ни бросал камни в Гайдара и Кº – и это они не учли, и то сделали не так. Подавляющее большинство претензий следует признать обоснованными. Но как могла оказаться в нужное время в нужном месте столь слабая в профессиональном смысле команда реформаторов?
Отвечу в одесском стиле вопросом на вопрос: а другая команда была? В стране, занимающей 1/6 часть суши, с численностью населения около 300 млн человек не нашлось других специалистов, способных составить хотя бы в первом приближении дорожную карту реформ.
Удивляться этому не приходится. Все достижения западной гуманитарной и социальной мысли в стране «победившего социализма» проходили по категории лженауки, а процесс получения собственных знаний был настолько жестко регламентирован, что то, что у советских гуманитариев получалось на выходе, с реальностью практически не соотносилось.
Насколько соотносятся с реальностью достижения современных беларусских гуманитариев, выполняющих четкий и конкретный заказ государственных работодателей, мне не известно. Но тут я повторяюсь. Однако, между прочим, согласно Конституции, единственным сувереном в Беларуси является народ. Следовательно, только он и может выступать конечным заказчиком любых исследований, проводимых за бюджетные, т.е. за народные, деньги.
Для меня как рядового представителя народа беларусская гуманитарная наука предстает в виде черного ящика, из которого практически ничего не выходит.

Между прочим, глава государства сталкивается со схожей проблемой. Приведу его высказывание от 5 августа: «У нас сегодня очень важный вопрос для гуманитариев и ученых, как двигаться дальше, каким должно быть общество».
Около десяти лет назад, когда на вершине властной «вертикали» возникла необходимость в государственной идеологии и научной проработке собственной экономической модели, «товарищи ученые, доценты с кандидатами» ничем помочь главе государства не смогли. И пришлось ему, горемыке, идти «от жизни» по целине.
Куда он в итоге зашел – вопрос актуальный, но вторичный. Вопрос первостепенной важности – как оттуда выйти?

*n-europe.eu*

# Арт-праект "Сад". У Веткаўскім музеі адкрылася новая выстава

**Незвычайнае спалучэнне знакамітага на ўваесь свет Неглюбскага рушніка ды арыгінальнай тэхнікі стварэння карцінаў на тле беларускай багны можна пабачыць у Гомельскім філіяле Веткаўскага музея імя Ф.Р. Шклярава.**

Нeяк угляджваючыся ў зацягнутае раскай возера, падумалася, што сама рэчаіснасць падобная часам на палатно. Толькі бяры і малюй! З падручнага чароту само сабой пачалі класціся на збагнелую гладзь малюнкі з прымітыўнымі чалавечкамі і кветкамі, падобныя, я падумаў, на Іке-баны. Тым больш гэтае слова пасавала таму палатну, на якім я працаваў – багне. Так і нарадзілася мастацтва ікеба-г-ны – кажа пра сваю творчасць Аляксандр Лобан.

Незвычайным чынам парадзеныя на выставе і рушнікі – кампазіцыя аформленая ў прасторы галоўнай залі. Квяцістыя ўзоры на рушніках ствараюць уражанне сапраўднага саду.

Неглюбскі рушнік стаў знакамітым на ўвесь свет менавіта пасля таго, як стаў каляровым. Немагчыма знайсці аніводнай пары падобных па каляроўцы адно да аднога рушнікоў. У традыцыі чырвонага колеру такое магчыма, тут – не. Кожная жанчына імкунлася зрабіць свой рушнік адметным. – кажа загадчык філіялу Пятро Цалка.
Усё гэта пабачыць можна у Гомельскім парку ў філіяле Веткаўскага музея.



# **Паляванне на беспрацоўных** і дэмантаж рэжыму

*Адным з самых устойлівых і пашыраных міфаў, якія стварыла лукашэнкаўская прапаганда за гады свайго існавання, быў тэзіс пра тое, што, дзякуючы палітыцы рэжыму, у Беларусі адны з самых нізкіх у свеце паказчыкі беспрацоўя. І гэты факт падаваўся, як значнае дасягненне рэжыму не толькі ў сацыяльнай сферы, але ў галіне абароны... правоў чалавека. Бо Лукашэнка сам неаднарозова казаў пра тое, што галоўнае права – гэта права на працу. А ў нас, калі верыць чыноўнікам з ураду і адміністрацыі прэзідэнта, з гэтым нібыта ўсё настолькі добра, што хоць у кнігу рэкордаў Гінеса занось.*

**Дзяніс РАБЯНОК**

Зразумела, што ні Лукашэнка, ні міністр сацыяльнай абароны, ні тым больш афіцыйныя прафсаюзы і праўладныя СМІ свядома ніколі не рабілі акцэнта на тым, што ў нас фантастычна нізкія лічбы выключна афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных.

І гэта цалкам зразумела і вытлумачальна. Навошта чалавеку, як кажуць у здаровым розуме і цвёрдай памяці, марнаваць час і нервы на тое, каб у выніку атрымаць дапамогу ба беспрацоўі ў памеры 20-30 даляраў? І тое пры ўмове выканання так званых “грамадскіх прац”, напрыклад, па выкідванні гною ў калгасе ці прыборцы вуліц.

Пры гэтым, па падліках




аўтарытэтных незалежных экспертаў каля 700 тысяч беларускіх грамадзян працуюць за межамі Беларусі, пераважна нелегельна, у суседняй Расіі. Калі ж зыходзіць з розніцы паміж колькасцю насельніцтва Беларусі ў працаздольным узросце і колькасцю насельніцтва, занятага ў эканоміцы, то атрымліваецца, што на сённяшні дзень у Беларусі нідзе афіцыйна не працуе і не вучыцца больш за мільён чалавек!

Зразумела, што гэтая шматтысячная маса “гастарбайтараў” ніколі ў сводкі афіцыйнай статыстыкі не трапляла. Больш за тое, на ўсе пытанні, якія тым ці іншым чынам закраналі гэтую вострую праблему, улады адказвалі здзеклівымі каментарыямі з вуснаў мелкіх чыноўнікаў, асноўны змест якіх зводзіўся да таго, што, згодна з іх дадзенымі, ў Расіі (зноў жа такі па афіцыйна заключаных дамовах) працуе літаральна 2-3 тысячы чалавек. Звесткі ж пра амаль мільённае “войска” беларускіх рабацяг на расійскіх будоўлях прадстаўнікі лукашэнкаўскай вертыкалі іначай, як “паклёпам” і “інсінуацыямі” не называлі.

І вось літаральна некалькі дзён таму Міхаіл Мясніковіч, другі чалавек ва ўладнай іерархіі, аднім махам звёў на нішто шматгадовую працу сваіх жа падначаленых са статыстычнага камітэта. Аксакал беларускай палітыкі заявіў, што “амаль 445 тысяч беларусаў працаздольнага ўзросту па дакументах нідзе не працуюць, не ўносяць ніякага ўкладу ў развіццё грамадскай эканомікі”. Адначасова беларускі прэм'ер агучыў сваё бачанне вырашэнне гэтай праблемы прапанаваўшы “увядзенне падатку з непрацуючых”.

Трэба сказаць, што першым пра барацьбу з так званым “сацыяльным утрыманствам” пачаў казаць сам Лукашэнка, прапанаваўшы ўвесці 100% плату за медыцынскае абслугоўванне для тых беларускіх грамадзян, якія працуюць за межамі Беларусі, атрымліваюць добрыя заробкі, але плаціць падаткі не жадаюць. Абмеркаванне закінутай у свядомасць электарату тэмы працягнулі некаторыя дэпутаты “палаткі” і вось, нарэшце, уступіла ў дзеянне і “цяжкая артылерыя” у асобе Мясніковіча.

Выглядае на тое, што ўлады спакваля, не спяшаючыся, але паслядоўна і мэтанакіравана рыхтуюць насельніцтва да прыняцця непапулярных рашэнняў у гэтым пытанні.

Хачу вызначыцца з пазіцыяй і сказаць, што менавіта я, як грамадзянін Беларусі, рашуча супраць любых захадаў, якія тычацца дыскрымінацыі правоў беспрацоўных. І ў плане абкладання іх нейкімі незразумелымі падаткамі, і ў плане ўсталявання ў адносінах да іх нейкіх абавязковых выплат за карыстанне сацыяльнымі паслугамі, у тым ліку і медыцынскімі.

>>> 4

3 <<< **Паляванне на беспрацоўных і дэмантаж рэжыму**

**Па-першае,** у тым, што людзі працуюць нелегельна і не рэгіструюцца ў якасці падаткаплацельшчыкаў, галоўная віна ляжыць якраз на дзяржаве, на тым рэжыме, які кіруе Беларуссю з 1994 года. Чаму людзі з'язджаюць з раённых цэнтраў і вёсак у Расію, працуючы ад відна да відна, нярэдка рызыкуючы здароўем, а то і жыццём? Адказ відавочны. Бо існуючыя на сёння памеры заробкаў на абсалютнай большасці беларускіх прадпрыемстваў і ўстаноў – гэта здзек над чалавекам. Пражыць на гэтыя сумы і аднаму цяжка, не кажучы ўжо пра тое, каб утрымліваць сям'ю з некалькімі дзецьмі. Нават на такім сталічным гіганце, як МТЗ заробкі пакідаюць жадаць нашмат лепшага. А ў правінцыі яны на яшчэ на парадак менш. Таму пра якую адказнасць грамадзян перад дзяржавай (у выглядзе падаткаў) можна весці гаворку, калі дзяржава не можа забяспечыць кваліфікаанаму працаўніку нават мінімальна неабходны ўзровень спажывання?

**Па-другое,** тыя нашыя суайчыннікі, якія нелегальна працуюць у самой Беларусі, аказваючы самыя розныя віды паслуг, напрыклад па рамонце кватэр, хаваюцца ад падаткаў у большасці выпадкаў таму, што ў нашай дзяржаве зарэгістраваць і ўтрымліваць уласны невялікі бізнес – гэта своеасаблівы подзвіг. Асабліва ў рэгіёнах. Зразумела, што з любога правіла існуюць выключэнні. І, напрыклад, калі ты сваяк мясцовага вертыкальшчыка ці нейкага начальніка з сілавых структур, то ты будзеш мець рэжым найбольшага спрыяння. Але ж сітуацыю, пры якой паспяховы і прыбытковы бізнес можна мець толькі пад кантролем уладаў, іначай, як сістэмнай карупцыяй, не назавеш. Я ўжо не кажу пра практыку рэгулярных пабораў з прадпрымальнікаў на бясконцыя “дажынкі”, “базары”, “уборачныя” і г.д. Таму дзяржава павінна стварыць умовы для таго, каб людзі выйшлі з “ценю” і плацілі падаткі. Бо пры існуючай сітуацыі, калі сілавікі і судовая сістэма фактычна не выконваюць свае функцыі па абароне правоў і законных інатрэсаў грамадзян, а абслугоўваюць інтарэсы рэжыма, у тым ліку і ў эканамічнай сферы, свядома парушаючы пры гэтым законы і Канстытуцыю, казаць пра тое, што людзі павінны выконваць тыя ж законы і плаціць падаткі, - гэта ў рэшце рэшт проста амаральна і несумленна.

**Па-трэцяе,** ставіць у віну людзям тое, што людзі карыстаюцца пэўным наборам сацыяльных гарантый, якія забяспечваюцца за кошт дзяржбюджэту, не плацячы пры гэтым падаткаў, не толькі некарэктна, але і нявыгадна нават для самой дзяржавы.

Цалкам незразумелым з'яўляецца папрок у тым, што, маўляў, дзеці беспрацоўных вучацца ў дзяржаўных школах, якія фінасуюцца за кошт тых, хто працуе і нават з самага мізэрнага заробку плоціць падаткі ў дзяржбюджэт. Прыплылі, што называецца. Такія недарэчныя аргументы нават і абмяркоўваць не хочацца. Базавая школьная адукацыя з'яўляецца ў Беларусі абавязковай. І нават калі па нейкіх прычынах (давядзем сітуацыю да абсурду і дапусцім, каб зэканоміць дзяржаўныя сродкі) беспрацоўныя бацькі не пажадаюць аддаваць сваё дзіця ў школу, дзяржава, як інструмент узаконеннага гвалту, прымусіць іх гэта зрабіць. Школьная адукацыя – гэта зусім не дзяржаўная дабрачыннасць, а зусім наадварот. Дзяржаве патрэбныя людзі з пэўным наборам ведаў і навыкаў для таго, каб сам дзяржаўны механізм мог існаваць. Таму гэта бацькі робяць паслугу дзяржаве, асабліва ўлічваючы тое, у якім жахлівым стане знаходзіцца беларуская сістэма школьнай адукацыі і выхавання. І гісторыя гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, які працуе нават без мінімальнай дзяржаўнай падтрымкі, фактычна ў падпольных умовах, даючы пры гэтым наздвычай якасную сярэднюю адукацыю, яшчэ раз гэта пацвярджае.

**Па-чацвёртае,** усе тыя, хто нелегальна працуе і не плоціць падаткі, усё роўна купляе прадукты і тавары ў беларускіх крамах. Ён не толькі забяспечвае працай і заробкам тых, хто працуе на беларускіх прадпрыемствах, але і аплачвае падатак на даданую вартасць, які прысутнічае абсалютна ва ўсіх таварах і паслугах – ад хлеба да пасцельнай бялізны ў цягніку. Гэтых людзей не трэба цкаваць і пераследаваць. Яны абсалютна самастойна забяспечваюць сябе і свае сем'і, нічога не патрабуючы ў дзяржавы. Гэта найбольш актыўная і крэатыўная частка нашага грмадства, якая абавязкова будзе працаваць “у белую”, калі для гэтага будуць адпаведныя – палітычныя і эканамічныя – умовы.

Зразумела, тое, што беларускі бюджэт мае вялікія праблемы з напаўненнем – гэта факт. Калі б у дзяржавы хапала грошай на фінасаванне сацыяльнай сферы, то не было б і заявы Мясніковіча. Але, як мне падаецца, трэба не выдумляць новыя паборы і падаткі для тых, хто хоча і можа зарабляць самастойна, а разабрацца з самім механізмам бюджэтных выдаткаў. Трэба кардынальна змяніць прыярытэты бюджэтнай палітыкі, бо зараз на так званую “агульнадзяржаўную дзейнасць” (утрыманне бюракратычнага апарату і органаў улады), а таксама на сілавыя і карныя структуры (МУС, КДБ, Міністэрства абароны, служба аховы прэзідэнта і г.д.) выдаткоўваецца больш за палову бюджэту. Пры гэтым даўно вядома, наколькі неэфектыўна і непрафесійна працуе тая ж міліцыя. І гэта пры тым, што колькасць супрацоўнікаў там перавысіла ўсе магчымыя і немагчымыя межы. А КДБ ужо шмат гадоў працуе выключна як палітычная паліцыя, што з'яўляецца адкрытым парушэннем Канстытуцыі.

Неабходна пераглядаць самі прынцыпы існавання сістэмы кіравання са значным і, што самае важнае – рэальным (без перасаджвання з аднаго месца ў іншае), скарачэннем чыноўніцкіх штатаў. Бо лукашэнкаўская вертыкаль – гэта не толькі заробкі і прэміі, гэта шыкоўныя аўтамабілі, сучасная кампутарная тэхніка, еўрарамонты ў кабінетах і г.д.

Але ж без карэнных зменаў у палітычнай сістэме, без дэмантажу аўтарытарнага рэжыму Лукашэнкі зрабіць усё гэта проста немагчыма. Таму галоўнае пытанне ў тым, ці знойдзецца палітычная сіла, якая зможа вырашыць гэтую складаную задачу.




***Сайт freelance.baj.by створаны для камунікацыі між беларускімі журналістамі-фрылансерамі ды рэдактарамі.***

*Прэзентацыю праводзілі сябры БАЖ Таццяна Бублікава ды Антон Сурапін. Мерапрыемства арганізавала Гомельская філія ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”.*

*У памяшканні грамадска-палітычнага цэнтра на Палескай 52 удзельнікі абмеркавалі асаблівасці працы журналістаў-фрылансераў у Беларусі, праблемы , з якімі яны сутыкаюцца, падзяліліся прафесійнымі хітрыкамі.*

*Апроч сайта былў прэзентаваны дапаможнік і прававы даведнік “Анатомія фрылансу”, які падымае праблемы беларускай фрыланс-жырналістыкі, прычыны з'яўлення фрылансу, прававыя і працоўныя аспекты.*

*Журналіст - фрылансер – вольны “мастак”, чалавек, які выконвае працу без заключэння доўгатэрміновай дамовы. Знаходзіцца па-за штатам пэўага СМІ, можа выконваць працу для некалькіх працадаўцаў.*

## Фаер-фест пройдёт на набережной реки Сож **в День города**

Будет ГОФФ! Именно так гомельчане окрестили фаер-фест, который в четвёртый раз 15 сентября – в День города и день рождения радио «107,4 FM» – пройдёт на набережной реки Сож. «ГОФФ» расшифровывается как Гомельский огненный фестиваль фаерщиков, хотя изначально пламенное шоу называлось фаер-фестом», – поясняет Елена Лагунова, начальник радиовещания радио «107,4 FM», которое является одним из организаторов фестиваля наряду с Гомельским горисполкомом и театром огня «Atesh».

В этом году приезжает 15 коллективов. «Мы выбирали самых нестандартных и креативных участников. Впервые к нам присоединятся команды из Москвы, Черкасс и Херсона», – рассказала Елена. Своё мастерство покажут традиционные гости фестиваля из Брянска, Орла, Киева и Чернигова. «Будет возможность увидеть разножанровые выступления, – отметила начальник радиовещания. – Брянск, например, привезёт космическую программу с использованием огнемётов и спецкостюмов, а Херсон – огненно-цирковую».

Данный фестиваль принципиально не проводится на конкурсной основе. «Приедут коллективы, которые хотят показать своё мастерство и поздравить Гомель с Днём города, – подчеркнула Елена Лагунова. – Это будет очень милый и родной фестиваль. Гомельчане даже предложили сделать символом фестиваля огненную рысь».

Представление будет проходить с 19.00 до 22.00 в сопровождении специальных гостей – белорусской рок-группы Drum Ecstasy – и закончится фейерверком на Билецком спуске.

Кроме этого, увидеть огненное шоу можно будет на открытии Международного фестиваля хореографического искусства «Сожскі карагод» на стадионе «Центральный».

**Дмитрий ЧЕРНЯВСКИЙ, «ГВ»**

## СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ…

**12.08.2013 gomelcivil.org:**

**«11 жніўня на Пляцоўцы перад ГЦК адбылася анансаваная культурная барахолка “Flea market”.**

Нягледзячы на досыць актыўную рэкламу ў інтэрнэце ды музыку на ўсю Ірынінскую, аматараў разнастайнага хэнд-мэйда ды іншых унікальных цікавостак знайшлося няшмат.

Карціны, фігуркі, статуэткі, элементы дэкарвання інтэр'еру, мыла ручной работы, стылёвая вопратка – то няпоўны пералік прадстаўленых на выставе-продажы тавараў.

*“Людзей сёння замала.Магчыма, тое звязана з сезонам адпачынкаў. Усе параз'ехаліся. Але тое-сёе прадаць атрымалася” – дзеліцца сваімі дасягненьнямі ўдзельніца Каця, якая ў якасці бонуса раздае сваім пакупнікам цукеркі».*



# Сродкі масавай інфармацыі **паведамляюць…**

**26.08.2013 gomelcivil.org:**

«Чарговая фотасушка адбылася ў Гомелі. Дзясяткі фатографаў: аматары і прафесіяналы прэзентавалі на суд публікі свае працы. Паводле правілаў фотасушкі, удзельнікі фотасушкі маюць права наўзамен сваіх працаў узяць фотаздымкі, якія яны ўпадабалі…».

**29.08.2013 gomelcivil.org:**

«Старажатны абрад "Свяча", які сягае каранямі яшчэ ў дахрысціянскія часы, адбыўся ў в.Гусявіца. Свячою нашыя продкі называлі ікону, якая належыла ўсёй абшчыне і раз на год урачыста пераносілася з адной хаты ў другую. Зараз так званыя Свечы ўжо радзей пераносяцца, паменела іх колькасць, і сам абрад захаваўся ў рэдуцыраваным выглядзе…».

**29.08.2013 gomel.gov.by:**

«В августе – сентябре текущего года пройдет серия бесплатных тренингов для руководителей и сотрудников предприятий легкой промышленности. Тренинги организованы в рамках проекта Программы развития ООН (ПРООН) «Совершенствование внешнеэкономической деятельности в Республике Беларусь» совместно с Частным предприятием «Вебком медиа».



Участие в тренингах позволит сотрудникам белорусских предприятий оценить потенциал использования интернет-пространства как канала для продвижения товаров, поиска новых клиентов и выхода на зарубежные рынки. Участники узнают, как оценить эффективность сайта предприятия и как с помощью использования инструментов интернет-маркетинга можно ее повысить. 17 сентября пройдет бесплатный тренинг по теме «Продвижение в интернете».

**29.08.2013 gp.by:**

«Фестиваль «Сожскі карагод" феерично откроется 14 сентября на Центральном стадионе. Огонь, вода, земля и воздух "свяжутся" с музыкой, словом и пластикой. Вместо лазерных спецэффектов применят новые технологии, сообщили организаторы. На огромных полотнах в объемном формате зрители увидят феерию четырех стихий. Сотни артистов выполнят паточные упражнения — волны, перегибы, наклоны. Действо продлится более часа.

Конкурсная программа откроется днем ранее. На фест соберутся примерно шестнадцать коллективов. В списке участников помимо славян — танцоры из Индии, Сербии, Америки. Белорусским хедлайнером станет государственный хореографический ансамбль "Харошкі". Коллективы посоревнуются в народно-сценической, эстрадной номинациях, в современной хореографии, а еще пантомимной пластике.

Конкурсная программа пройдет в городском центре культуры, а финальный гала-концерт — в ДК железнодорожников. Хореографический фест переместится и на сценические площадки городских улиц. Будут и театрализованное шествие, и огненное шоу. Впервые пройдет мастер-класс по белорусскому танцу. Пройдет выставка фотографий, отснятых на всех шести фестивалях. "Сожскі карагод" будет бесплатным для посетителей, за исключением открытия и выступления нескольких маститых ансамблей. Без проблем можно будет побывать на конкурсных мероприятиях…».

>>> 7

6 <<< **Сродкі масавай інфармацыі паведамляюць …**

**gomelcivil.org:**

«Чарговы футбольны турнір адбыўся ў межах кампаніі “Хопіць піць – трэба жыць!” На гэты раз пры падтрымцы ініцыятывы “Зробім лепш 2013”. Падчас турніра збіраліся подпісы з просьбай арганізаваць футбольны стадыён. “Турнір будзе праводзіцца цягам некалькіх тыдняў, у адрозненні ад папярэдніх. Выйграе каманда, што набярэ як мага болей ачкоў па выніках усіх гульняў. Таксама сёння мы правялі збор подпісаў пад зваротам у Чонкаўскі сельсавет аб вылучэнні пляцоўкі пад футбольнае поле, каб мы маглі праводзіць гульні ў больш зручных умовах, і каб месцічам было дзе граць у футбол.” – дзеліцца арганізатар турніра Андрусь Цянюта. На гэтых выходных сабраліся чатыры каманды, што аб'ядналі больш за трыццаць чалавек…».









>>> 8

## 7 <<< Сродкі масавай інфармацыі паведамляюць …

**03.08.2013 gomelcivil.org:**

«Клуб гістарычнага фехтавання і рэканструкцыі «Тэра» праводзіць традыцыйны летні рыцарскі турнір на сталёвай і трэніровачнай зброі. У турніры можа прыняць удзел любы пры наяўнасці зброі і ахоўнага ўзбраення, адпаведнага правілам турніру. Турнір праводзіцца ў рамках рыцарскага руху і для яго ўдзельнікаў, не з'яўляецца шоу праграмай, не мае камерцыйных і палітычных мэтаў. Мэта клуба: аднаўленне гістарычнага побыту, культуры і ваеннага рыштунку, а таксама ўдзел у розных мерапрыемствах. Клуб заснаваны ў 1993г. і з'яўляецца найстарэйшым клубам гістарычнай накіраванасці ў нашай краіне, неаднаразовы арганізатар і ўдзельнік шматлікіх сярэднявечных і ролевых фестываляў, рыцарскіх турніраў, гарадскіх выступаў, выстаў прадметаў сярэднявечнага побыту і ўзбраення. Таксама клуб прымаў удзел і пры здымках "Анастасіі Слуцкай", дзе галоўныя героі фарсяць у даспехах працы рэчыцкіх майстроў. Клуб актыўна займаецца вывучэннем сярэднявечных рамёстваў у тым ліку пры дапамозе аўтэнтычных інструментаў і тэхналогій, асаблівая ўвага надаецца вывучэнню старадаўніх традыцый нашай зямлі».







Алексей Коваль, а/я 28, 246003, Гомель. Тираж 299 экз.